

1868—1936

18 чэрвеня ў Горках, пад Масквой, памёр вялікі рускі пісьменнік, любімы друг працоўных і іх дзяцей

**Аляксей Максімавіч ГОРКІ**

# НА ВАРЦЕ СОВЕЦКІХ ГРАНІЦ



**Нашы геройскія байцы-пагранічнікі дзень і ноч пільна сочаць за спакоем совецкіх граніц. Вялікую дапамогу ў гэтай справе ім аказваюць калгаснікі пагранічных раёнаў і іх дзеці—піонеры. Яны добра ўмеюць пазнаваць замежных ворагаў-шпіёнаў і не прапуецяць іх на нашу совецкую зямлю.**

Набраўшы вязку галля, Коля сеў на пянёк адпачыць.

Быў прыгожы сонечны дзень. Ціха ў лесе...

Раптам недзе зусім блізка хруснула галінка. Коля ўстаў.

„Напэўна, заяц",—падумаў ён. Але, азірнуўшыся, Коля ўбачыў за дрэвам чалавека, які ішоў да яго.

— Скажы, хлопчык, як мне трапіць на заставу?—Перад Колем стаяў высокі чалавек сярэдніх год з хітрай усмешкай на твары.

— А нашто вам застава?

— Бачыш, хлопчык, я з суседняй вёскі, заблудзіўся...

Розныя думкі закружыліся ў Колевай галаве. Ён зразумеў адразу, што гэта шпіён. „Але які-ж знайсці выхад, каб затрымаць яго?"



*— Вось так ідзіце,—паказаў Коля рукой.*

Коля яшчэ раз азірнуўся. Навокал нікога не было. „Што рабіць? Бегчы на заставу?—ён за гэты час уцячэ. А затрымаць яго трэба".

Пачуўся скрып колаў; яны абодва азірнуліся. Па дарозе ехалі калгаснікі—з таго калгаса, адкуль Коля.

— Вось так проста ідзіце,—паказаў Коля рукой, і сам хутка пабег да калгаснікаў.

Праз некалькі хвілін незнаёмы ўжо быў у руках калгаснікаў. Ён вачыма шукаў хлопчыка, які так удала перахітрыў яго. Але Колі не было. Ён памчаўся ўжо ў заставу да пагранічнікаў. Коля хутка вярнуўся разам з пагранічнікамі. Шпіён быў арыштован.

Піонер Коля Іпалітаў з гонарам выканаў свой піонерскі абавязак.

# СЫНЫ

ЯНКА КУПАЛА

Рысункі А. ВОЛКАВА







Сыноў бацька сваіх кліча
    На нараду ў хату,
А ўрачыста, як-бы кліча
    На якое свята.

І з павагаю пытае
    Кожнага ў асобку,
Кім з іх кожны быці хоча,
    Якім жыць заробкам.

— Бо, сыны мае,—так кажа,—
    Жывіцё ў краіне,
Чалавечая дзе праца
    На марна не гіне.

І сыны адказ трымалі
    Перад бацькам родным,
А стараўся з іх быць кожны
    Свайго бацькі годным.

*

Першы кажа:—Землі буду
    Трактарам варочаць,
Каб рунелі, зялянелі,
    Аж яснелі вочы.

Каб раслі ў рост чалавека
    Жыта і пшаніца,
Каб аж госці к нам з-за свету
    Ехалі дзівіцца.

*

Другі кажа:—На заводзе
    Быць хачу даўно я,
Дзе чыгун ракою льецца,
    Дзе звініць сталь звонам.

Будаваць буду дзень цэлы
    Домны і мартэны,
Медзь і вугаль браць у дзела
    Ад шахтаў падземных.

*

— Плаваць я пайду на мора,—
Сказаў гэтак трэці,—
Дзе „Чэлюскін“ горда плаваў,
Дзе пурга, дзе вецер.

Ад халодных да гарачых
Мораў рэйс мой будзе,
Параход мой будзе грозна
Рэзаць хваляў грудзі.

*

Сын чацьверты:—Хочу лётаць
Птушкаю крылатай,
Мерыць неба ў самалёце
Над тваёю хатай.

Арлянём сябе ў сне бачу,
Не знаю спакою...
Хачу быць я, мой ты бацька,
Лётчыкам-героем.



*

— Байцом буду я чырвоным,—
Пяты кажа гэтак,—
Сцерагчы граніцы-межы
Краіны Советаў.

Каб наш вораг пры нападзе
Сустрэнуў магілу.
Байцом буду, каб з мяне быў
Рад сам Варашылаў.



*

А сын шосты:—Складаць песні
Буду, колькі змогі.
Пра вялікія падзеі
Сталінскай эпохі.

Як працуем, як знішчаем
Здрадныя напасці,
Як будуем, як ствараем
Казачнае шчасце.



*

Так сыны адказ трымалі
З гонарам юначым,
Свае выказаці думкі
Не ўмелі іначай.

Большэвік быў іхні бацька,
Пролетарый родам,
Зведаў сушы, зведаў моры,
Бітвы і паходы.



# Бой на граніцы

Апавяданне памочніка камандзіра ўзвода пагранічнай аховы НІКАЛАЯ КАБАКОВА

Рысункі Г. ЗМУДЗІНСКАГА

Калі мы выехалі ў нарад, на дварэ было яшчэ цёмна. У лагчынах ляжаў густы туман. У паветры пахла вільгаццю.

Мы ехалі на конях па вузкай сцежачцы, прабіраючыся скрозь калючы густы хмызняк. Галлё хвастала нас, чаплялася за вопратку.

Ехалі мы асцярожна і не гаварылі. Гэта дарога была нам добра вядома. Кожную сопку*) і лагчынку мы тут ведаем. Але на варце трэба заглядаць нават за кожную купінку: ці не хаваецца там хто-небудзь?

Многа разоў спрабавалі япона-манчжурскія атрады парушыць нашу граніцу. І па адным і групамі спрабавалі яны перайсці нашу граніцу, каб шпіёніць і шкодзіць нашай краіне. Але не было яшчэ выпадку, каб нашы пагранічнікі прапусцілі ворага.

І цяпер вось едзем мы, і кожны пільна глядзіць па баках. Вецер шуміць, а мы ўслухоўваемся: ці не шагі гэта?

Коні нашы ідуць ціха, не фыркаюць. Конь заўсёды пачуе чалавека не горш за сабаку: пачне стрыгчы вушамі—значыць наперадзе нехта ёсць.

Прыехалі мы на сопку „Васюціна". Гэта высокая сопка. З яе куды ні глянеш—усё відаць навокал. Сонца паднялося ўжо высока. Неба яснае, блакітнае. Мы злезлі з коней. Я паставіў двух байцоў наглядальнікамі. Самі мы замаскаваліся травою і галлём. Коней прывязалі да дрэва. Коні ў нас прывучаны: ціха стаяць, не варушацца.

Навокал расце бярэзнік, невысокія дубкі. Адыйдзеш на некалькі шагоў—нічога не заўважыш. Здаецца, што ніводнай жывой душы тут няма. Ужо на што дзікія козы палахлівыя, а і тыя ходзяць зусім блізка ад нас, скубуць траву.

Паглядзіш—да чаго-ж усё спакойна навокал. Але пагранічніка не ашукаеш. Мы ведаем, што вораг можа з'явіцца ў любую хвіліну, у самы нечаканы момант.

Доўга ляжым мы гэтак у засадзе, а самі не спускаем вачэй з граніцы. Дзень ужо канчаўся. Сонца пачало заходзіць. Я дастаў

*) Сопкамі ў Манчжурыі называюцца бязлесныя вяршыні гор.

прадукты: хлеб, мяса, яйкі—і падзяліў паміж байцамі.

Раптам чую: Рудэнка-наглядальнік—ён сядзеў на самым высокім выступе сопкі—падае знак: хруснуў пальцамі, нібы зламаў сухую галінку. Сігналіць мне. Я ўзабраўся наверх сопкі, дастаў бінокль. Бачу: даўгі чорны ланцужок людзей ідзе праз граніцу. Падыйшлі яны бліжэй, я разгледзеў: наперадзе чалавек пяць, а за імі цэлы атрад. Я прасігналіў заставе, а сам байцам загадваю падрыхтавацца к бою. Байцы ў маім узводзе—комсамольцы. Гэта народ быстры і акуратны.

Варапаеў падрыхтаваў кулямёт, Ліскароў і Машкін дасталі гранаты. Адзін баец вывеў коні з схованкі і трымае за павады. Бачу я праз бінокль, што ворагі спыніліся і раяцца. Пастаялі яны ды зноў пайшлі наперад. Зайшлі на наш бок больш за кілометр. Я тады выслаў насустрач ім двух байцоў, каб папярэдзіць парушальнікаў, што яны зайшлі на нашу тэрыторыю. На мірныя сігналы байцоў японцы адказалі стрэламі. Узброены яны былі добра: вінтоўкамі і кулямётамі. У гэты час прымчаўся конна з заставы Іосіф Влач з пяццю пагранічнікамі. Але ўсё-ж нас было ў тры разы менш, чым ворагаў.

Влач памчаўся наперад, крычыць ім:

— Назад!

А яны страляюць у нашых байцоў і бягуць наперад. Відаць, хацелі нас акружыць.

„Ну,—думаю,—не быць гэтаму ніколі, не ашукаеце нас!“ Загадваю заехаць у тыл ворага. А да іх было яшчэ з кілометр.

Пакінуў я аднаго наглядальніка на сопцы, ускочыў на свайго каня, прышпорыў яго. А конь у мяне „Голас“—разумны, гарачы конь. Я браў на ім шмат прызоў.



Адчувае „Голас“, што сур'ёзная справа. Як ірванецца ён наперад, і памчаўся па лагчыне. За мною памчаліся астатнія байцы. Нам трэба было абыйсці ворага з правага боку. Мы імчымся наперад, што ёсць сілы, не разбіраючы дарогі. А лес тут густы, дарога цяжкая: то пад гору, то з гары.

Аб'ехалі мы японцаў. Зусім блізка чуваць стрэлы. Саскочылі з коней, паглядзелі на лагчыну, а там нічога не разбярэш—адзін дым. Гэта вораг наўмысля падпаліў траву і зрабіў нешта падобнае на дымавую заслону, каб яго не відаць было.

Мы стаялі на ўзгорку. Убачылі яны нас і накіравалі кулямёт у наш бок. Мы ляглі і папаўзлі наперад. Паўзем, а над галавою кулі свішчуць і пстрыкаюць навокал. Я прапоўз наперад, устанавіў там кулямёт. Хоць і вялікі дым быў у лагчыне ад гарэўшай травы, але Варапаеў добра нацэліўся. Кулямёт наш засакатаў, і адразу ўпала тры чалавекі.

У ворага пачаўся перапалох. А з боку граніцы да іх на падмогу ідзе цэлы конны атрад. Ну, але мы іх так сустрэлі, што яны мігам завярнулі назад.

Бяжыць раптам да мяне Піскароў і крычыць, махаючы рукою.

— Таварыш памкамузвода, сюды хутчэй!

Пабег я да яго насустрач. Бачу: ляжыць чырвонаармеец, рукі ў розныя бакі. Нагнуўся я—Валька! Самы мой лепшы прыяцель. Мы з ім і вучыліся разам і на граніцы служылі разам.

Гляджу: дыхае ён цяжка, вочы сталі цмяныя. Адцягнулі мы яго за кусты. Хацеў я ў яго вінтоўку ўзяць—не аддае.

— Сам, — кажа, — буду яшчэ страляць.



А я Валенціна ведаю добра і дамагацца не стаў.

— Дзе куля, Валька?—пытаю.

Паказвае ён на грудзі. Разарваў я яго рубашку напалам. Выцягнуў свой пакет, пачаў перавязваць рану. Японцы—проста ў нас страляюць. Кулі свішчуць зусім нізка, над самай галавой.

— Скончыцца бой, Валенцін, прыду сюды.

А страляніна ўсё працягваецца.

Пачало змяркацца. Пайшоў дробны асенні дожджык. Мы ўсе былі потныя, а тут адразу стала халаднавата. Мы з байцамі наступаем на ворага. Влач з аднаго боку, я са сваімі байцамі,—з другога.

Японцы не вытрымалі і пабеглі назад. Тут мы іх да граніцы такім маршам гналі, што яны ўсё жыццё, напэўна, будуць памятаць гэты дзень.

„Правялі“ мы іх да граніцы. А далей—ні шагу: наш пагранічнік не нарушае чужой граніцы.

Пабег я хутчэй назад. Адна думка ў галаве: ці жывы Валенцін?

Навокал цёмна, ніяк не знайду таго месца, дзе пакінуў яго. Удзень дык знайшоў-бы па кустах, а ўночы ўсе кусты здаюцца аднолькавымі. Убачыў я: матляецца паміж галінкамі белая анучка. Гэта я калі адыходзіў, павесіў кавалак бінта.

Падбег я да Валенціна. А ён ужо мёртвы. Падняў я свайго друга з зямлі, палажыў яго ўпоперак сядла перад сабой, ускочыў на каня і паехаў.

І пакляўся я ў тую цёмную ноч, калі вёз мёртвае цела Валенціна, адпомсціць за яго.

У нас, на заставе, усе любілі Валенціна Кацельнікава. Гэта быў самы лепшы фізкультурнік. Бывала як пачне на турніку практыкавацца, усе збягаліся глядзець. Удзельнічаў ён ва ўсіх вечарах самадзей-

насці. Лепей за яго ніхто не іграў на гармоніку. І таварыш ён быў вельмі добры.

Да раніцы мы сядзелі на сопцы. Агню раскладаць нельга, а холадна. Селі мы шчыльней адзін да другога і шэптам гаварылі. А раніцай пайшлі ў тую лагчыну, дзе ўчора быў бой.

Уся трава спалена, на зямлі валяюцца стрэляныя гільзы ад патронаў. Але вось чуем нехта жаласна вішчыць. Падкраліся мы асцярожна да куста, а за ім ляжыць сабака. Як убачыў сабаку Немчук, так і кінуўся да яго. Гэта быў яго сабака. У час бою сабаку ранілі, і ён усю ноч ціханька праляжаў у кустах. А як убачыў сваіх, дык і завішчэў. Узялі мы яго і паехалі на заставу.

На другі дзень пахавалі мы Валенціна Кацельнікава з усімі вайсковымі ўшанаваннямі, як і належыць герою. Над яго трунаю мы пакляліся яшчэ больш пільна ахоўваць граніцу.

Начальнік заставы таварыш Чэрных паслаў тэлеграму ў Данбас, сваякам Валенціна. Праз некаторы час мы даведаліся, што на нашу заставу едзе добраахвотнікам стрэчны брат Валенціна—Пётр Кацельнікаў.

Я сустракаў Пятра ў Нікольску. Вылез ён з поезда, прывіталіся і паехалі мы на граніцу на дрэзіне.

Назаўтра выехалі мы на заставу імя Валенціна Кацельнікава. Пётр ехаў у тачанцы, а я побач—конна. Пад'ехалі мы да магілы Валенціна: зняўшы шапкі, мы доўга стаялі каля яго магілы. Паглядзеў я на Пятра, і падумаў, што ён падобны на Валенціна. На шляху да заставы вялікі перавал. Мы злезлі з коней і пехатою прышлі на заставу. А застава—гэта невялікі пасёлак на схіле перавалу. Прывялі мы Пятра ў інтэрнат і тут расказаў ён аб тым, як даведаліся ў Канстантынаўцы пра смерць Валенціна Кацельнікава. Калі Пётр атрымаў тэлеграму аб тым, як загінуў Валенцін, ён вырашыў стаць на месца брата. Сказаў пра гэта бацьку. Бацька адказаў: „Правільна, каб я быў маладзейшы, сам пайшоў-бы!"

Раніцою, праз некалькі дзён, начальнік заставы таварыш Чэрных перадаў Пятру вінтоўку, востры адточаны клінок Валенціна і яго гнядога каня „Гонг".

— Гэта зброя і конь належалі Валенціну,— сказаў Чэрных,—ты прыехаў яго замяшчаць. Насі з гонарам зброю свайго брата.

Узяў Пётр свайго каня за повад. Улажыў клінок у ножны і сказаў усім байцам:

— Буду стаяць на варце граніц, як брат!

І ў дождж, і ў завеі, і ў цёмную ноч, і ўдзень стаяць вартавыя на сваіх пастах.



Мы ведаем, што вораг прытаіўся і чакае моманту, калі пагранічнік адвернецца, каб праслізнуць нячутна на нашу зямлю.

Але вока вартавога пільнае, напружана ён ловіць кожны гук. Разам з ім яго прыяцелі—сабака і конь.



# МАМЛАКАТ НАХАНГАВА

Ніколі яшчэ не было, каб такая маленькая дзяўчынка атрымала такую вялікую ўзнагароду.

Піонерку Мамлакат Нахангаву Савецкі ўрад узнагародзіў за добрую калгасную работу ордэнам Леніна.

Ордэн Леніна—самы ганаровы ордэн у нашай краіне. Яго носяць на грудзях самыя лепшыя людзі. Пад ордэнам Леніна б'юцца самыя смелыя, самыя верныя сэрцы. Самыя лепшыя стаханаўцы, самыя адважныя лётчыкі, самыя вучоныя прафесары, самыя ўмелыя майстры носяць ордэн Леніна.

Мамлакат разам з лепшымі ўдарнікамі бавоўнаробамі Таджыкістана прыехала ў Маскву на нараду.

Сталін ёй падарыў гадзіннік. І Мамлакат трымае левую руку ўвесь час трошкі воддаль. А потым прыпадзе вухам да шкла і слухае: цік-так, цік-так. Слаўна цікаюць! Мамлакат Нахангава маўчыць. Яна ні з кім не хоча гаварыць. Яна хоча слухаць як цікае гадзіннік, і пра ўсё яна ўжо расказала Сталіну.

— Табе, мусіць, не гаварыць, а ў лялькі гуляць хочацца?— спытаў я яе знарок.

Мамлакат бліснула на мяне вачыма.

— Навошта мне лялькі? Калі-б гуляла ў лялькі, дык не назбірала-б сто два кілаграмы бавоўны. Мне вучыцца цікава, працаваць цікава. Бавоўну збіраць цікава. Я ўсё была маленькая, і мяне не пускалі збіраць. Я хацела, а мяне не пускалі. Тады я сама пасля школы пачала збіраць. Я ўмею двума рукамі. Трэба збіраць бавоўну двума рукамі. Я ўсіх вучу збіраць двума рукамі. У нас у калгасе мужчыны збіраюць пяцьдзесят кілаграмаў. Я раней збірала адной рукою і было таксама пяцьдзесят кілаграмаў. На шосты дзень пачала збіраць двума рукамі і вышла сто два кілаграмы. Я ўжо цяпер вялікая,—бавоўна ніжэй за мяне.

Мамлакат расказала, як яна вучыцца ў школе ў другім класе. Яна—выдатніца, і па роднай мове ў яе выдатна, і па матэматыцы выдатна.

І самае галоўнае—яна піонерка ўжо.

— Я над дзесяцьма піонерамі самая галоўная,—хуценька расказвае Мамлакат.—Яны таксама ўсе захацелі бавоўну збіраць. Другія дзяўчаткі таксама навучыліся добра бавоўну збіраць. Бачаць, што я многа збіраю, і самі сталі больш збіраць. А мяне ўчора таварыш Сталін вось так абняў. І я яго што сілы абняла. І не скажу я больш нічога...

І Мамлакат паехала ў госці да пісьменніка Лахуці. Там перш-наперш пайшла Мамлакат у ванну.

— Ты гадзіннік з рукі знімі,—сказала ёй жонка пісьменніка.

— Не зніму я гадзінніка,—уперлася Мамлакат.

— Як-жа так?.. з гадзіннікам купацца будзеш?

— З гадзіннікам... нізавошта я яго не зніму. І на хвіліну не зніму. Ніколі не зніму.

Ну, і, вядома, вада папала ў гадзіннік. І гадзіннік спыніўся. Мамлакат мігам вылезла з ванны. Абцерлася калматай прастынёю. Толькі слёзы ніяк не магла выцерці.

— Ой, што я нарабіла! Ой, што я нарабіла,—сапсавала сталінскі гадзіннік.

Але таварыш Лахуці пазваніў па тэлефону ў майстэрню гадзіннікаў і расказаў усё, што здарылася.

Прыехаў майстар. Ён пакруціў вінцікі ў гадзінніку, і гадзіннік зноў зацікаў. Мамлакат засмяялася, а майстар сказаў:

— Дык вось яна якая, Мамлакат Нахангава!

*Л. К.*

---



# Хацінка на ялінцы

Казка Н. ЗАБІЛЛА
Рысункі К. ГЕДДА

Там, дзе ёлкі на узгорку
У бары пасталі ў рад,
Скача шустрая вавёрка
І склікае зверанят.

Уецца рыжы яе хвосцік
У вяршалінах густых.
—Да сябе сягоння ў госці
Заклікаю я усіх.

У малой маёй хацінцы,
Што на ёлцы між сукоў,
Падрыхтованы гасцінцы
Для маленькіх, для звяркоў.

Паляцела пчолка гаем
І давай усім гусці:
—Вас вавёрка запрашае
На абед хутчэй прыйсці.

І, пачуўшы пра навінку,
Па вячэрняе расе
У вавёрчыну хацінку
Тут спяшаюцца усе:

Верабейчыкі, сінічкі,
Пчолкі, восы, павукі
І камарык невялічкі,
І казюлькі, і жукі.

І варона-разявака,
І вясёлыя зайцы,
І сарока-белабока,
І конікі-скакунцы.

Вось нячутна,
Непрыкметна
Шэры крот паўзе,
Як дзед.

Ён спяшаецца таксама
Да вавёркі на абед.
Ўсіх вавёрачка вітае.
Сваю лапку падае.
Да стала іх заклікае
І гасцінцы раздае.



У хацінцы
На ялінцы
Сёння весела усім:
Дружна скачуць
І спяваюць;
Музыканты граюць ім.

Грае пчолка
У свісцёлку
І гудзіць чмяліны рой.
Барабаніць тут аб ёлку
Дзяцел дзюбаю сваёй.

Вось зайчаткі—
Голы пяткі—
Як пусціліся скакаць!
Верабейчык-канапельчык
Стаў зайчаткам памагаць.



А за імі усе птушкі
І звяры скакаць пайшлі.
Граюць, граюць, выграваюць
Ім і пчолы і чмялі.

У хацінку
На ялінку,
Дзе вясёлая гульня,
Кліча шустрая вавёрка
Ўсіх маленькіх зверанят.

— Толькі вусені калматай
Мы не пусцім ў сваю хату,
Бо яна у нашым лесе
Робіць шкоду—проста жах!
З'ела лісце
Усё да чыста
І на дрэўцах і кустах.

— Ну, і гада мы, вядома,
Не дапусцім к свайму дому,
Бо ў птушыным у гняздзечку
Гэты страшны люты гад
Падушыў усе яечкі
І маленькіх птушанят.

— І зладзейкі-мышкі
У сваю хацінку
Да сябе не пусцім
А ні на хвілінку.
Бо яна, зладзейка, ўчора,
Як сцямнела, уначы,
У вавёрчынай каморы
Ўсе пагрызла калачы.

— Патачылі караеды
Ўсю кару ў бары густым.
Не паклічам іх абедаць,
Бо у нас не месца ім.

— Той, хто ў лесе толькі шкодзіць
Дрэвам, птушкам і звярам—
Хай сюды і не заходзіць,—
Непатрэбны яны нам!

Так у шэранькай вавёркі
Гаманілі да зары
На ялінцы на узгорку
Мошкі, птушкі і звяры.

Толькі зранку
На світанку
Па срабрыстае расе
З той хацінкі на ялінцы
Разышліся госці ўсе.

Тут вавёрка задрамала,
Жабка спіць на беражку,
Ціха-ціха ўсюды стала
У зялёным у ляску.

Нават сосны і ялінкі
Не варушацца, маўчаць.
І расінкі
На травінках
Нібы пацеркі блішчаць.

*Пераклад з украінскай мовы*
***А. ЯКІМОВІЧА.***






# Заяц

АПАВЯДАННЕ П. ЛЕВАНОВІЧА
РЫСУНКІ Г. ЗМУДЗІНСКАГА

Мне вельмі хацелася паглядзець на поезд ноччу. Але жылі мы ад станцыі далёка і я ніяк не мог яго ўбачыць.

Аднойчы вечарам бацька збіраўся адвозіць пошту на станцыю. Упакаваў пісьмы ў брызентавы мяшок і чакаў шофера. Неўзабаве затрубіў ражок і да ганка пошты пад'ехаў аўтамабіль.

Я стаў прасіць бацьку ўзяць мяне з сабою, але ён і слухаць не хацеў. Тады я непрыкметна залез у аўтамабіль сам. Бацька прышоў, адчыніў дзверцы і здзівіўся:

— А ты ўжо тут?.. Ну, што-ж, паедзем, калі так намогся.

Машына чыхнула, ірванула з месца, і мы паехалі. Шасейная дарога перасякала вялікі лес, а за лесам рэчку. Гэта дарога мне знаёмая, я часта прыходзіў у грыбы сюды. Але далёка ад дарогі, у глыб лесу, я баяўся заходзіць.

Мы ехалі лесам. Святло ад фараў прарэзвала цемень і далёка асвятляла дарогу. Абапал шасе ноч здавалася чарнейшай. Я выставіў руку і адчуў густы цёплы вецер. Лес спаў. Ніхто не парушаў яго цішыні. Машына спакойна імчалася па новай высыпанай гравіем дарозе. Раптам бацька крануў мяне за руку:

— Паўлік, глядзі, вунь заяц...

Я нахінуўся наперад і цераз плячо шофера ўбачыў, як шэры заяц перабягаў дарогу. Электрычнае святло асляпіла яму вочы, і таму ён выправіўся ўдоўж па шасе. Машына даганяла яго. Мне стала шкада зайчыка.

— Татка, мы-ж яго задушым...

— Не задушым, машына ідзе памалу,— адказаў бацька, і я супакоіўся.

Затрубіў ражок: шофер хацеў сагнаць зайца з дарогі. Заяц памкнуўся збочыць, але ў лесе стаяла вялікая цемень, і яму, мабыць, здалося, што гэта сцены. Таму ён ізноў памчаўся белаю дарожкай.

Хутка мы ўз'ехалі на мост. Заяц быў ад нас на некалькі шагоў. Зноў затрубіў ражок. На гэты раз насустрач ехала падвода. Шофер спыніў машыну. Я захваляваўся ад цікавасці.

— Чакайце, я яго злаўлю,—крыкнуў я. Вылезлі мы з бацькам і пабеглі за зайцам. Падвода ехала паціху, а спераду яе ішоў чалавек. Чалавек свіснуў і пабег да зайца таксама. Заяц апынуўся паміж людзей на асветленым мосце. Доўга не думаючы, ён скокнуў уніз.

— Бяжэм, ён-жа ўтопіцца.

— Выплыве,—сказаў бацька, і мы пабеглі на бераг.

У вадзе штосьці варушылася. Наўрад, каб гэта быў заяц. Ён напэўна разбіўся, падаючы з высокага моста. Мы падышлі і нагнуліся над вадою. Я глядзеў на чорную гладзь рэчкі. Зайца не было. Бацька павярнуўся, сабраўся ісці ў аўтамабіль, але пачуў мой крык:

— Вось ён, татка...

Заяц выплыў на бераг, недалёка ад мяне. Я схапіў яго за вушы, але ён рвануўся, ударыў нагамі і я паляцеў у ваду. Моцна сціснуўшы звярка за вушы, я не выпускаў яго з рук. Рэчка была неглыбокая каля берагу, і я лёгка выбраўся з яе.



— Злавіў усё-такі, хоць і парваў ён мне кашулю,—паказваў я з вялікай радасцю зайца. Бацька пагладзіў перапалоханага звярка і пахваліў мяне.

Мы селі ў аўтамабіль, абмінулі падводу і паехалі далей.

Наперадзе віднелася ўжо станцыя, а хутка прымчаўся і поезд.

# ЗВЯРЫНАЯ ГАСПАДАРКА

З НАРОДНЫХ КАЗАК
РЫСУНКІ К. ГЕДДА

У куце сядзіць мядзведзь—
Хустку вышывае,
А лісічка-невялічка
Хату прыбірае.

А каток пячэ аладкі—
Маслам падлівае.
Мышанятка жвава, гладка
Катку памагае.

# ЯШЧАР

Сярод жывёл, рысункі якіх былі змешчаны ў № 2 нашага журнала, было адно страшыдла, якога ніхто з нашых чытачоў не ведаў, але якім напэўна ўсе зацікавіліся.

І нездарма. Калі паглядзець на яго, то можа здацца, што гэта такое стварэнне, якіх даўно ўжо на свеце няма.

Заместа скуры ў яго цвёрдая броня, падобная на чарапічную страху. Пры кожным руху гэтыя касцяныя чарапіцы грозна бразгочуць, і ад гэтага бразгатання шмат каму робіцца страшна. А калі гэтае страшыдла яшчэ стане на заднія лапы ды абапрэцца на свой хвост, дык у самага смелага чалавека пойдуць дрыжыкі па спіне.

Завецца гэтае страшыдла — стэпавы яшчар. Назва яго паказвае, што ён нібы мае нешта агульнае з вядомымі нам маленькімі бясшкоднымі яшчаркамі, хоць велічыня яго дасягае часам аднаго метра. Ён зусім не мае зубоў, а страшныя кіпцюры прывыклі толькі капаць зямлю; кіпцюры гэтыя загнуты ў сярэдзіну, і яшчар, як і мураўед, ставіць пярэднія лапы не далонямі, як усе жывёлы ў свеце, а другім бокам. Даўгі язык, як і ў мураўеда, можа высоўвацца вельмі далёка, і да яго ліпнуць мураўі, тэрміты і іншыя казюлькі, якімі жывіцца яшчар.

Такім чынам, страшэнны звер аказаўся зусім няшкоднай ціхамірнай жывёлінай.

Яшчар рые сабе нару, сядзіць у ёй увесь дзень, а падвечар вылазіць на паляванне. У часе небяспекі некаторыя яшчары скручваюцца. Цяпер мы ўжо можам заўважыць, што такі яшчар, апрача некаторага знадворнага падабенства, не мае нічога агульнага з яшчаркамі. Яшчаркі належаць да гадаў, а наш яшчар—звычайная жывёла, вельмі падобная на мураўеда, родзіць жывых дзяцей і корміць іх малаком. З нашых жывёл да яго куды больш падыходзіць вожык, чым яшчарка.

Яшчараў ёсць некалькі відаў; адны з іх трохі большыя, другія меншыя; у адных тая ці іншая частка цела больш накрыта панцырнай луской, у другіх менш; а ўсе яны з'яўляюцца аднымі з самых дзіўных жывёл на зямлі, галоўным чынам таму, што выгляд іх зусім не адпавядае іхняму складу і жыццю.

Жывуць яны ў Афрыцы і ў паўднёвай Азіі. Іх можна трымаць у хаце і карміць малаком і белым хлебам.

**М.**



# ДЗЕ ЖУЧКА?



1.—Таварыш міліцыянер, вы не бачылі майго Жучку?




2.—Алё! Аддзяленне міліцыі? Вам не даставілі сабачку?



3.—Можа, тут?




4.—Грамадзянка, дзе мой Жучка?




5. Дзядзечка! Дайце чэснае піонерскае, што ў вас у Заапарку няма майго Жучкі!



6.—Згубіўся сабачка.
А сабачка ўвесь час быў поблізу. Знайдзіце яго.

## ДВА ПАСАЖЫРЫ

На палубе парахода стаяць два пасажыры. Адзін з іх глядзіць на поўнач, другі—на поўдзень. Праз некалькі хвілін адзін, не паварочваючы галавы, кажа другому:

— Табе на нос муха села.

А другі яму адказвае:

— А ты раскрыў рот і прыплюшчыў правае вока.

Як пасажыры маглі бачыць адзін другога, не адварачваючы галавы і не варушачыся?

## ЖАРТ

— Чаго крычыш?

— Мядзведзя злавіў.

— Вядзі сюды.

— Ды не ідзе.

— Ну, дык сам ідзі.

— Ды не пускае.


ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЧЭРВЕНЬ 1936 г. № 6

ЦАНА 30 кап.

# ПРЫГОДЫ ЯНКІ РЫБАЛОВА



Малюнкі А. ВОЛКАВА
Тэкст А. ЗІМІОНКІ



1. Рушыў Янка у паход,
А за Янкам ззаду—кот.



2. Вось і бераг. Янучок
Ў рэчку кінуў свой кручок.



3. Паплавок ў вадзе дрыжыць—
Пільна хлопчык наш глядзіць



4. „Мусіць рыбка на кручку?“
Кот таксама на-чаку.



5. Хлопчык вуду з рэчкі—хап!
А каток за рыбку—цап!



6. Азірнуўся Янучок—
Коцік з рыбкаю уцёк.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 20.000 экз. Заказ № 741. Уп. Галоўлітбела № Б 1352.